Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 22 …львер, 19-га Жніуня 1926 г. м. Вільня Год I

# Бел…ускае Слова

Выходзіць … дзень Цана нумару 20 грош.

На… …ньне.—Тэрыторыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на па… …ратызм.—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая … лучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.



Падпісная цана на 1 … 3 „ 2 зл. 50 гр. Заграніцу ўдвая даражэй.

…Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka 1 Hotel …wski" pokój Nr 12. Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам— 20 гр.
„ сярод тэксту — 25 гр.
„ на апош. стар. — 10 гр.
За радок нонпарэля.

# Напярэдадні канца.

Увага ўсяго сьвету і ўсіх народаў скіравана на тое, што робіцца ў Савецкім Саюзе. А робіцца там тое, у чым мы былі заўсёды праконаны і што ня раз на шпальтах нашае газэты прадсказвалі — што ўлада банды міжнародных злодзеяў, авантурыстаў і забойцаў — расейская комуністычная партыя гіне.

Цікава, што тая эўрапэйская прэса, якая нядаўна дапускала магчымасьць істнаваньня савецкай улады амаль не бяз концу, сёньня хорам гэтаксама прадсказвае хуткі яе канец. Цьвердзіць гэтае і ўся польская прэса. Аднак-жа польская прэса надта мала гаворыць аб тым, што будзе пасьля ўпадку бальшавікоў. А Польшча перадусім павінна аб гэтым падумаць. Бо ўпадзе бальшавіцкая ўлада — ўпадзе і ўсё тое, што гэтая ўлада паставіла. А значыцца аўтаматычна ўпадзе і рыжская мяжа, якая дзеліць Беларусь на дзьве часткі. Гэта будзе,—ня можна зачыняць вочы, як гэта робіць польскае грамадзянства. Трэба рыхтавацца да гэтага няўхільнага мамэнту і рыхтавацца разумна і дзейна. А дарога адна—гэта шырокія рэформы для Заходняй Беларусі і Украіны і высуненьне прынцыпаў вялікай фэдэрацыі Польска-Украінска-Беларускай. І той факт, што на чале сучаснай Польшчы стаіць дэмократычны ўрад Бартэля — Пілсудскага, рэалізацыі гэтай ідэі прымае рэальные формы. Бо ніхто іншы як Язэп Пілсудскі гэты прынцып высунуў яшчэ ў 1919 годзе.

Аднак жа час ня церпіць! Магчыма, што поўны крах савецкай улады наступіць ня сёньня і ня заўтра. Але ясна, што гэты крах ідзе хуткімі крокамі і падзеі у С.С.Р.Р. разьвіваюцца надзвычайна хутка. У залежнасьці ад гэтага павінна выявіць максімум энэргіі і ўвагі польскае грамадзянства і ўрад і прыступіць адразу да шырокіх рэформаў на крэсах. Праграма ўраду не павінна разьлічацца на сёняшні дзень. Трэба ўзяць пад увагу падзеі ў С.С.Р.Р. і будаваць дзяржаўную працу, памятаючы аб тых зьменах, якія не прыйсьці ня могуць.

# Падзеі у Савецкай Расеі.

У апошнія дні ў Саўдэпіі адбыліся падзеі вялікай вагі. Пасьля выключэньня Зіноўева і Лашэвіча з палітбюро, апазыцыя пачала адкрытае выступленьне проці фактычнага дыктатара комуністычнай партыі Сталіна. У Петраградзе і на правінцыі адбыліся праўдзівыя баі паміж часьцямі войск апазыцыі і Палітбюро. Хто пераможа ў гэтай барацьбе яшчэ нельга прадбачыць. Магчыма, што і на гэты раз пераможа кіруючая група. Але кожная гэткая „перамога" усё больш і больш прыбліжае комуністычную ўладу да няўхільнай гібелі. Сёньня яны змагаюцца яшчэ паміж сабой, але блізкі час, калі ў гэтую барацьбу ўмяшаецца трэцяя сіла — народ і магутным парывам зьмяце з паверху зямлі ненавісную савецкую уладу.

Ніжэй мы падаем сводку аб падзеях у Саўдэпіі, на падставе тых вестак, якія зьявіліся за гэты час у польскай і расейскай прэсе.

## Як пачалося.

Першыя інфармацыі аб тым, што апазыцыя, на чале з Зіноўевым рыхтуецца да актыўнага выступленьня проці Цэнтральнага Камітэту комуністычнай партыі былі атрыманы ў Г.П.У. яшчэ ў канцы чэрвеня. У Маскве, Харкаве і Кіеве адбыліся тайныя сходы рабочых, на якіх была вынесена пастанова забіць Сталіна і іншых прадстаўнікоў урадавай групы. Даведаўшыся аб гэтым Палітбюро дала загад Г. П. У. зараз-жа прыступіць да ліквідацыі апазыцыі. Аднак рашучыя крокі проці апазыцыі былі прыняты толькі пасьля сьмерці Дзержынскага, калі на чале „Чэка" стаў Менжынскі.

## Арышты у Маскве.

2 жніўня маскоўскае Г. П. У. зрабіла шмат арыштаў, пераважна сярод вайсковых. Асабліва шмат арыштавана было ў палітаддзеле арміі. Было арыштавана больш 100 паліткомаў і каля 200 чырвоных афіцэраў. Тры роты вышэйшай вайсковай школы былі абезброяны. З афіцэрскай школы было звольнена 228 чалавек. Два пехотныя палка былі выведзены з Масквы і пераведзены ў Смаленск. Сярод невайсковых апазыцыянэраў Г. П. У. арыштавала ў Маскве 66 асобаў. Агулам была зроблена больш 600 арыштаў. У адказ на гэтыя рэпрэсіі апазыцыя пачала адкрытае выступленьне проці Палітбюро.

## Першая спатычка у Петраградзе.

У Петраградзе ўжо некалькі месяцаў істнавала тайная друкарня, у якой друкаваліся адозвы з апазыцыі. Друкарня гэтая працавала пад аховай вайсковай часьці. Калі туды зьявіліся агэнты Г.П.У., дык чырвонаармейцы сустрэлі іх стрэламі. Завязалася перастрэлка, у рэзультаце якой было забіта 3 чырвонаармейца і 1 агент Г. П. У. і некалькі чалавек ранена. Гэта выклікала вялікае абурэньне ў вайсковых часьцях. На адбыўшыхся мітынгах амаль увесь гарнізон Петраграда высказаўся за апазыцыю.

## Паустэньне матросаў.

Ад 2 жніўня спынілася ўселякая лучнасьць паміж Петраградам і Кранштадтам. Матросы Кранштадскага гарнізона паўсталі і захапілі ў свае рукі ўладу. З Петраграда былі пасланы туды часьці Г. П. У., якія абезброілі экіпажы двух крэйсэраў. Рэшта вайсковых караблёў падняўшых паўстаньне выйшла ў адкрытае мора. Лёс іх ня ведамы. Адначасова пачалося паўстаньне і ў Чорнаморскім флёце. Атрыманы весткі аб паўстаньнях у Адэсе, Нікалаеве і Херсоне.

## У Туле.

У Туле паўстала проці істнуючай улады гэтак званая міжнародная брыгада, да якой далучыліся тры палкі месцовага гарнізону. У самой Туле і ў яе ваколіцах ідуць баі паміж часьцямі ГПУ. і паўстаўшымі вайскамі.

## Троцкі у Тверы.

4 жніўня ў Маскве разыйшліся сэнсацыйныя чуткі аб тым, што Троцкі, які да гэтага часу адкрыта не выступаў, выехаў у Твер, дзе стаў на чале паўстаўшых войск. Кажуць аб тым, што Г. П. у. ужо быў даны загад арыштаваць Троцкага, але ён даведаўшыся аб гэтым выехаў з Масквы.

## Баі на Украіне.

У Раёне Днестра ідуць баі паміж паўстанцамі і ўрадовымі войскамі. Часьці паўстаўшага Чарнаморскага флёту зрабілі высадку ў Херсоне і Керчы і занялі гэтыя гарады. У Адэсе войскі ўкраінскага гэнарала Лесевіча паднялі паўстаньне проці цэнтральнага ўраду. Чырвонаармейцы забілі камісара Драчэнку. Паўстаўшыя часьці апанавалі ўвесь горад.

У рабочых кварталах Масквы пачаліся выступленьня рабочых. У гэтыя кварталы пасланы войскі. На вуліцах вайскокыя патрулі. Бязупынна ідуць арышты. Арыштаваных масамі вывозяць з Масквы.

## Паустаньне на Беларусі.

У Менску взбунтаваўся 37 кавалерыйскі полк, які ўваходзіць у склад 7 Самарскай дывізіі. 31 ліпня гэты полк выйшаў з казармаў і заняў частку горада. 2 жніўня пачаўся бой паміж паўстаўшымі кавалерыстамі і часьцямі 10 пехотнай дывізіі. Спачатку перавага была на старане паўстанцаў, але пасьля прыбыцьця на подмогу да ўрадовых войскаў артылеры, кавалерыйскі полк быў разьбіты. Чырвонаармейцы гэтага палка ўцяклі ў лясы і адтуль пры дапамозе месцовага сялянства вядуць партызанцкую вайну. У начы з 9 на 10 г.м. адбыліся баі ў раёне Лужак. У гэтых баёх прымала вучасьце нават артылерыя. У раёне Полацка ідуць баі паміж аддзеламі ГПУ. і паўстаўшымі палкамі кавалеры і пехоты. Вынікі боя яшчэ ня ведамы. У раёне Рагачова зьявіўся партызанскі атрад, на чале якога стаяць Старагатаў і Красьнічэнка. Атрад меў спатычку з аддзелам Рагачоўскай міліцыі. Наагул на Беларусі ўсё войска падзелілася на два варожыя лагера, якія вядуць паміж сабою зусім правільную рэгулярную вайну.

## «Чрэзвычайная» камісія па барацьбе з апазыцыяй.

Дзеля барацьбы з апазыцыяй, па загаду савецкага ўраду, створана спэцыяльная „Чэка“, бо савецкая ўлада не даверае ўжо нават ГПУ., часьці якога гэтаксама заразіліся апазыцыйнымі настроямі.

---

Апошнія весткі з Сав. Расеі гавораць аб тым, што ня гледзячы на страшэнны тэррор паўстаньне апазыцыі ня толькі не спыняецца, але з кожным днем пашыраецца і захоплівае ўсё новыя і новыя раёны.

---

# ПАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД.

Як толькі паявіліся першыя весткі аб адкрытым выступленьні опозыцыйнай групы Зіноўева проці савецкага ўрада, амаль што ня ўсе загранічныя газэты аднагалосна прызналі гэта пачаткам канца бальшавізма ў Расеі, а некаторыя проста гэта назвалі кануна 10 тэрмідора (гэтакназываўся месяц у рэспубліканскім календары францускай рэвалюцыі, які адпаведае часу ад 19 ліпня да 17 жніўня, калі быў казьнены апошні францускі дыктатар Робэспьер і пала парыжская комуна) расейскае рэвалюцыі. Справа ў тым, што расейская рэвалюцыя зьяўляецца акуратнай копіяй вялікай францускай рэвалюцыі 1789 г. з тэй розьніцай, што разьвярнулася ў больш шырокім маштабе як па абшары, гэтак і ў часе. Тое самае паступовае „углыбленьне“ рэвалюцыі пакуль не прыйшоў поўны крах, тая самая дыктатура пралетарыята, тэррор, канфіскацыя царкоўнай маемасьці, зьдзек над рэлігіяй, духавенствам, інтэлігенцыяй, тыя-ж самыя надзвычайныя камісіі дзеля барацьбы з контр-рэвалюцыяй, рэвалюцыйныя трыбуналы, палітычныя камісары пры ваенных аддзелах і гп. Толькі ўва францускай рэвалюцыі працавала гілётына (машына, якой адрэзалі галовы палітычным праціўнікам), а ў расейскай рэвалюцыі — „сьценка“. У расейскай рэвалюцыі падзеі разьвіваюцца прыблізна ў два разы вальней за францускія, але паўтараюцца з надзвычайнай акуратнасьцю. Як ліквідацыя трыумвірата Марат—Дантон—Робэспьер ува францускай рэвалюцыі была пачаткам канца парыжскай комуны, гэтак і ліквідацыя трыумвірата або „тройкі“ Зіновьеў—Каменеў—Сталін у расейскай рэвалюцыі ўсе лічаць пачаткам канца комуністычнай улады ў Расеі. Тутака ролю Робэспьера гуляе Зіновьеў.

Гісторыя ўнутранага расклада расейскай комуністычнай партыі гэткая. На чале савецкай улады стаіць г. наз. „палітычнае бюро“ комуністычнае партыі, якое складаецца з 8-ёх сяброў запраўдных і кандыдатаў. Палітбюро ня мае нават старшыні, роль якога фактычна спаўняе сэкрэтар цэнтральнага камітэта комуністычнай партыі. Гэтыя абавязкі цяпер выпаўняе Сталін. Калі жыў Ленін, які меў бязумоўна аўтарытэт, ніхто ня важыўся ў партыі высказваць нязгодныя з ім свае пагляды.

Аўтарытэт Леніна зусім гарантаваў унутранае духоўнае адзінства комуністычнай партыі, зьяўляўшаеся ў сваю чаргу варункам істнаваньня савецкай улады ў Расеі. Але пасьля сьмерці Леніна не знайшлося адпаведнага насьледніка і ягоныя абавязкі пачала спаўняць г. наз. „тройка“, складаўшаяся з Зіноўева, Каменева і Сталіна. Дыктатар петраградзкай комуны Зіновьеў-Апфэльбаум, які любіў роскаш жыцьця і праводзіў увесь час на банкетах з жанчынамі, староннік ваеннага комунізма, заўсёды быў ад'ютантам Леніна і паўтараў яго словы. за што атрымаў назоў „рупор“ Леніна, пасьля сьмерці апошняга быў верным храніцелем яго заветаў. Каменеў, здраднік маскоўскага савета, быў блізкі Зіновьева. Яны абодва былі проціўвагай Сталіна, які адзначаўся вялікай умяркавальнасьцю. Гэткім чынам палітбюро пасьля сьмерці Леніна складалася з 3 паверхаў: на версе „тройка“ — Зіновьеў—Каменеў—Сталін, пасярэдзіне — Рыкаў, Калінін і Бухарын, а ўнізе—Дзяржынскі і Троцкі.

Першую опозыцыю ў комуністычнай партыі пачаў Троцкі. Але Ленін заўсёды ўстрымліваў яго за фалды і не даваў яму разыходзіцца, лічучы яго падмазаўшымся да партыі, у якую ён увайшоў перад кастрычнікавай рэвалюцыяй. Як толькі Ленін памёр, пачаў змаганьне з Троцкім Зіновьеў. Ен баяўся, каб Троцкі, як найбольш здольны з усіх, не заняў месца Леніна. У канцы канцоў Зіновьеў дабіўся таго, што Троцкі быў пераможаны і яго саслалі на прымусовы адпачынак на Каўказ і толькі пасьля таго, як ён выказаў свой жаль, быў прыняты ізноў назад у політбюро. Гэтым чынам першая опозыцыя Троцкага была зьліквідавана без вялікай устраскі компартыі.

Перамогшы Троцкага, Зіноўеў пачаў змаганьне са Сталіным, як галоўным сваім канкурэнтам, які быццам недаволі бароніць заветы Леніна і падрывае кастрычнікавую рэвалюцыю. Гэта опозыцыя Зіновьева проці Сталіна выразна выявілася на апошнім 14 зьездзе комуністычнае партыі ў сьнежні леташняга года. Зіновьева падтрымліваў камісар фінансаў Сакольнікаў, Каменяў, заступнік старшыні ваеннага трыбунала Лашэвіч, Крупская ды інш. Але ўсё-ткі Сталін на 14 зьездзе перамог опозыцыю Зіновьева. Але Зіновьеў не супакоіўся і далей вёў сваю работу, аб якой сьвет даведаўся толькі пасьля сьмерці Дзяржынскага. Аказалася, што Зіновьеў у комуністычнай партыі, а Лашэвіч у чырвонай арміі вялі опозыцыйную агітацыю проці ўсяго савецкага ўрада ў самым шырокім маштабе. Мелі яны патайныя друкарні, друкавалася і распаўсюджывалася па усей СССР. агітацыйная літэратура, наладжываліся тайныя сходы. Апошні гэткі сход быў склікаы ў лесе пад Масквой, на якім было больш за 100 важнейшых сябраў опозыцыі і якая ахранялася чырвонымі жаўнерамі, разстаўленымі Лашэвічам. Даведаўшыся аб гэтым, Дзяржынскі сказаў гэткую прамову на паседжаньні цэнтральнага камітэта, што вярнуўшыся дамоў праз колькі гадзін памёр ад разрыву сэрца. А опозыцыя гэтага толькі і чакала. Пасьля сьмерці Дзяржынскага опозыцыянеры сьмела паднялі галовы, ведаючы, што Сталін не здабудзецца на гэткія спосабы, на якія быў здольны кат расейскай рэвалюцыі Фэлікс Дзяржынскі.

Але і Сталін разам з іншымі сябрамі палітбюро знайшлі ў сябе гoдзі рашучасьці для змаганьня з опозыцыяй. Зіновьеў і Каменеў быў прогнаны з палітбюро. Апрача таго Каменеў быў скінуты са становішча камісара гандлю. Лашэвіч скінуты са становішча заступніка старшыні ваеннага трыбунала і пазбаўлены магчымасьці мець уплыў на чырвоную армію. Сакольнікаў скінуты са становішча камісара фінансаў, а Зіновьеў са старшыні ленінградзкай рады, дзе ён быў дыктатарам. Адначасна пачаліся масавыя зьмяшчэньні на ніжэйшых становішчах і арышты опозыцыянераў ува ўсей СССР. сярод рабочых, бюрократыі і чырвонай арміі.

Шмат дзе былі бунты ў чырвонай арміі. Гэткія-ж бунты былі і сярод матросаў у Кронштадзе, Адэсе, Сэвастопалі і Керчы. Урад заклікае насяленьне, каб было супакойнае. Але насяленьне толькі глядзіць з боку на тое, як грызуцца між сабой яго гнябіцелі, чакаючы мамэнта, калі можна будзе іх зьмясьці. І гэты мамэнт ужо блізка. Занятыя грызьнёй, арыштамі яны ня бачаць, як ува ўсей СССР. расьце бодрасьць духа, як падымаецца дзевяты вал, які зьнішчыць бальшавікоў.

N.

# Пара у архіў.

У папярэднім нумары „Беларускага Слова“ мы ахарактэрызавалі СельСаюз Рагулі—Ярэміча, як беларускую керэншчыну і прадсказывалі, што ён альбо сам сканае, альбо яго хутка праглыне комуністычная Грамада Луцкевіча—Тарашкевіча. Нашае прароцтва збываецца. Бо пасьля ілжы і шулерскага перакручваньня фактаў, якіх ужыў Рагуля ў сваёй соймавай прамове ад 21. 7 г. г., выступіў проці нас і орган Сельсаюзу „Сялянская Ніва“, ужываючы ўвесь лексыкон рэптыльнай „Беларускай Справы“. Тут і „прадажнікі“ і „найміты“ і г. д. і г. д. Але ня ў гэтым справа. Пры гэтак „высокай“ інтэлігэнцыі і пачуцьці этыкі, якую мае вучань Луцкевіча б. мантёр п. Ярэміч і п. пасол Рагуля, які адкрыта лжэ і перакручвае факты на Соймавай трыбуне, патрэбаваць ад іх этыкі ў прэсе—было-б дзіўна. Мы гэтага вымагаць ад іх і не думаем. Але здавалася-б, што гэткі рэзкі пераход да апазыцыі ў адносінах да нас трохі незразумелы, калі-б не адзін маленечкі факцік... П. Рагуля ў канцы сваёй Соймавай прамовы сам вытлумачыў прычыны свайго абурэньня і на прэмьера і на нас, сказаўшы: каб п. прэмьер быў праўдзівым радыкалам, дык пайшоў бы на паразуменьне з іншымі белар. групамі...“ (трэба разумець: не з Белар. Нац. Радай, а з СельСаюзам, і толькі з ім адным! Рэд.). А ў артыкуле „Нягодная служба“ (Сялянск. Ніва № 24). перадусім выліўшы на нас бочку бруду, аўтар кажа, што мы „нягодна нападаем на Сель Саюз і ягоных кіраўнікоў, паслоў Рагулю і Ярэміча“. Дык прыпомнім (гл. „Белар. Слова“!) што ад гэтага часу, як Сял. Саюз пачаў прабаваць ісьці правідловым шляхам, мы зусім прыхільна адносіліся да Саюзу, пакідаючы толькі за сабою зусім зразумелае права крытыкі. У N 21 „Беларускага Слова“. у артыкуле „Беларуская керэншчына“ мы перасьцярагалі Сялянскі Саюз ад пагібельнай дарогі дэмагогіі—керэншчыны. Але, калі прачытаць апошнія словы артыкулу „Нягодная служба“, дык справа робіцца... ясьней яснага. Вось што там напісана: „Віленскі ваявода Рачкевіч ведае, што работа Паўлюкевіча польскай справе раўна нулі“. За гэтае прызнаньне дзякуем кіраўнікам „Сял. Нівы“. Гэтым самым нават Сял. Саюз нявольна прызнаў, што „Белар. Нацыянальная Рада“ ніякай польскай працы не вядзе, а па другое—ў перакладзе гэта значыць: Паўлюкевіча работа польскай справе раўна нулі, а вось каб *нам* далі магчымасьць працаваць, дык у *польскай* справе *нашая* работа не была-бы роўна нулі! . А калі прыпомнім тыя страшэнныя закіды, якія рабіла Сял. Саюзу „Белар. Справа“ за „фліртаваньне“ Саюзу з польскімі партыямі, дык... усё стане ясным і зразумелым!.. Проста п.п. Ярэміч і Рагуля лазілі па чорных сходах, лазілі, фліртавалі з палякамі і атрымалі дулю! Але пры чым тут мы?.. І з прычыны таго, што ім, г. зн. п.п. Ярэмічу і Рагулі, не ўдалося нічога атрымаць, яны робяць вывады, што ўжо *ніхто* ня можа атрымаць, а дзеля гэтага ўсе тыя, што робяць высілкі, каб зьдзейсьніць праграму minimum — здраднікі і нягоднікі! Яны гэтак і кажуць; „...Работа Паўлюкевіча зусім і аканчальна нягодная, бо ўся гэтая работа не залежыць ад выпаўненьня палякамі хоць-бы найменшых абецанак“. А мы скажам, што мы былі-б нават страшэнна зьдзіўлены, каб Ярэміч і Рагула нешта атрымалі! Бо трэба толькі трохі успомніць аб мінулай дзейнасьці п.п. Ярэміча і Рагулі, каб дапусьціць, што польскія партыі могуць паверыць у раптоўную і дзіўна хуткую шчырасьць і прыхільнасьць гэтых паноў да Польшчы. Бо хто-ж іншы як не п. Ярэміч прымаў актыўнае вучасьце ў літоўска-нямецкай акцыі, калі справа йшла аб тое, да каго павінна належыць Віленшчына—да Літвы ці да Польшчы. Ня трэба забыцца, што на нямецка-жыдоўскія грошы п. п. Ярэміч і Рагуля уехалі і ў Сойм і зрабіліся „палітыкамі“. Ня трэба забывацца і аб тым, што Рагуля мае 2 антыдзяржаўныя справы. Праўда з гэтага пункту гледжаньня ягоная раптоўная „лёяльнасьць“ трохі і зразумелая... але гэта зусім не значыць, што яна шчырая і што палякі павінны яму верыць. Нарэшце ад майскага перавароту прайшло 3 месяцы. Што беларусы нічога яшчэ не атрымалі—гэта праўда. Але гэты час Урад быў заняты надзвычай важнымі справамі. І мы зусім пэўны ў тым, што прыдзе час на зьмены і рэформы і ў нас. Між іншым украінская газэта „Дзьвін“ № 200 піша, што прадстаўнік Украінскай народнай партыі, які нядаўна меў канфэрэнцыю з міністрам Асьветы А. Суйкоўскім выняс уражэньня, што ўрад пастанавіў скончыць нарэшце з сыстэмай калёнізацыі і з утраквістычнымі экспэрымэнтамі ў украінскай школе і што ў хуткім часе ў школьнай справе будуць праведзены рэформы. Мы пэўны, што рэформы будуць датычыць ня толькі украінскай, але і беларускай школы.

А каб гэтыя рэформы былі больш шырокімі—трэба за гэта змагацца, а не лаяцца. Адбыўшыйся беларускі Зьезд выявіў адкрыта і сьмела ўсе балячкі нашага жыцьця і накрэсьліў рэальную праграму і спосабы правядзеньня яе ў жыцьцё. І Сял. Саюз, нападаючы на гэты Зьезд, фактычна робіць *нягодную справу*, бо зьменшае павагу голаса дэлегатаў і сілу іх дамаганьняў. На ўсіх прысутных на

# АДОЗВА БЕЛАРУСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ РАДЫ.

## Грамадзяне Беларусы!

Карыстаючыся з палёгкаў, якія прынёс з сабою майскі пераварот, а роўным чынам з тых прычынаў, што новы ўрад, заняты справамі першай вагі, як зьмена конституцыі, направа арміі і рэарганізацыя цэнтральнага дзяржаўнага апарату, зацягнуў справу крэсавых рэформаў—выпаўзьлі з падпольля на паверх розныя цёмныя сілы краю і пачалі пасьпешна сваю цёмную працу. Зноў пачалі шлындацца па вёсках няведамыя тыпы. Зноў пачалі зьяўляцца то тут, то там па вёсках і мястэчках комуністычныя адозвы. Зноў пачалі сваю паскудную працу скрытыя і адкрытыя комуністычныя партыі і арганізацыі.

Гэтак, побач з комуністамі польскімі, пачалі энэргічна працаваць комуністы нашыя—беларускія.

Пралетарска-комуністычная „Грамада" Луцкевіча—Тарашкевіча перанясла сваю працу з гарадоў да вёсак і мястэчак. Яна арганізуе ўсюды свае грамадаўскія „гурткі". „ячэйкі" і „камітэты". Дык ведайце ж, беларусы-сяляне, што гэтыя „грамадаўскія" гурткі згуба для Вас. Дорага заплоцяць тыя з Вас, што лёгкаверна уступяць да гэтых гурткоў. „Грамада" аб'яўляе, што яе праца легальная, але ведайце, што гэтая праца ня толькі антыдзяржаўная, але скрыта комуністычная. Не дарма ані водная з польскіх дэмакратычных (народных) партыяў ня ладзіць з Грамадою, апрача „Незалежнай Партыі Хлопскай", гэтак жа скрыта комуністычнай, як і Грамада, толькі ўжо польскай. А хто ня ведае які нешчасьлівы лёс спаткаў тых сялян, якіх перад гэтым уцягнулі да сваіх арганізацыяў комуністы? Турма, а за ёй гора сямьі, зьнішчэньне гаспадаркі, вось які лёс тых сялян!

Грамада салодкімі абецанкамі зямлі, работніцка-сялянскага ураду і іншым заманьвае і ўпісывае Вас у свае гурткі. Але хто Вас будзе выпісываць з турмы? Хто тагды будзе карміць Вашую сямью? Яны — гэтыя паслы — Грамады гэтак „адважна" працуюць на Грамаду, бо яны незачэпныя (нятыкальныя). Іх ня можа ніхто арыштаваць, нават прэзыдэнт Рэспублікі. А Вас можа арыштаваць кожны звычайны паліцыянт. Яны Вас зусім сьвядома пхаюць у турму, бо яны хочуць гэткім спосабам і Вашымі мукамі пашырыць разгарычэньня і нездаваленьне і выклікаць рэвалюцыю, каб узяць праз яе ўладу, ў свае рукі, а нам ўсім даць камісараў-чужынцаў, комуну, чэка, праднaлог і гора і голад сялянскі.

Сяляне! За ідэю, за лепшую будучыню свайго народу ня страшна ісьці і ў турму. Але якую ідэю маюць комуністы і іх прыхвасьні? Якое шчасьце яны далі Расеі, Украіне і Беларусі? Горы трупаў расстрэляных і памёршых з голаду сялян, работнікаў і інтэлігэнцыі! Адных толькі сялян, за час улады бальшавіцкай, была расстрэляна 900.000 чалавек! А памёрла ад голаду ў 1921—1922 гадох страшэнная цыфра 20 мільёнаў—гэта значыць дзьве трэціх насяленьня ўсяе Польшчы! Вось якое шчасьце прынясла сялянам комуністычная „работніцка-сялянская" ўлада ў бальшавікоў. А ў Усходняй Беларусі яны апрача ўсяго, адабраўшы ад паноў зямлю, аблітую потам і крывёю сялянскай, аддаюць яе жыдоўскім асаднікам, а сялян высяляюць у Сыбір! Вось якое шчасьце маніцца даць Вам, тут „Грамада", уцягваючы Вас у свае гурткі. Але ведайце сяляне, што ў Саўдэпіі комуністычная партыя, а з ёю і уся іх улада гіне.

Правадыры яе ўжо пачалі душыць адзін аднаго. Забіты ўсерасейскі кат — кіраўнік Чэка Дзержынскі. Рэшта міжнародных бандытаў — гэтых сучасных валадароў Расеі, Украіны і Беларусі падзяліліся на дзьве варожыя групы: з аднаго боку Зіноўеў-Апфэльбаум, Троцкі-Бронштэйн і Каменеў-Розэнфэльд зрабілі загавор і паднялі паўстаньня процiў Сталіна-Джугашвілі і рэшты цэнтральнага камітэту комуністычнай партыі. У залежнасьці ад гэтага распалася і чырвоная армія на дзьве часткі і ўжо па ўсіх кутках савецкіх Рэспублік пачалося аружнае барацьба, якая няўхільна і хутка прывядзе іх да аканчальнай пагібелі. Бо ўсьлед за гэтым, паўстануць ўсе народы Сав. Рэспублікаў, каб зьнішчожыць сваіх мучыцеляў і гныбіцеляў.

Тады, асабліва будзе цяжка ўсім тым, хто далучыўся да комуністычнага руху!

Дык ня толькі ня ўпісывайцеся ў згубныя гурткі, а жаніце з сваіх вёсак усіх „грамадаўскіх, паслоў і іншых бальшавіцкіх агэнтаў, якія пяюць да гэтага часу Вам, што ў Савецкай Расеі добра і цягнуць Вас у пропасьць.

Яны ўсе працуюць за бальшавіцкія чырвонцы, якія ідуць з чырвонай Масквы, але скора іх працы будзе канец, бо згіне іх чырвоны карміцец і ўтрымацель—3 Комуністычны Інтэрнацыянал.

А тагды яшчэ гарэй будзе тым нешчасьлівым беларусам, каго хітрыкамі і ашуканскімі абяцанкамі заманілі комуністы ў свае розныя „Грамады". Беларусы! Стойце моцна за вашыя правы! Дамагайцеся зямлі для месцовага сялянства, роднай школы, праўдзіва дэмакратычнага самаўраду, спыненьня асадніцтва і наагул паправы Вашага жыцьця. Але гэтае змаганьне не лучыць з комуністычнымі партыямі і арганізацыямі, бо гэтым толькі згубіце ўсю справу свайго нацыянальнага адраджэньня.

Аб гэтым папераджае Вас выбраная на агульна-беларускім зьездзе Вашая Нацыянальная Рада.

**Беларуская Нацыянальная Рада**

Вільня, 16 жніўня 1926 году.

---

Зьездзе гасьцёў-палякоў гэты голас беларускай вёскі зрабіў вялікае ўражаньне. Гэтае ўражаньне трэба паглыбляць і пашыраць сярод польскай дэмакратыі і пры яе дапамозе гэтыя балячкі залячыць.

Паўлюкевіч — не адзінка. За ім стаіць Беларуская Нацыянальная Рада, выбраная Зьездам. Гэта ёсьць фактар з якім мусіць лічыцца ўсё польскае грамадзянства, а перадусім польская дэмакратыя, як гэта зазначыў сам Зьезд. Апрача гэтага ёсьць яшчэ адна рэч, якая прыдае асабліве значэньне і вагу Беларускай Нацыян. Радзе—гэта яе ідэйна-актыўная антыбальшавіцкая пазыцыя і дзейнасьць. Антыбальшавізм п.п. Рагулі і Ярэміча датуецца ад вельмі яшчэ нядаўнага часу (прыпомнім хацяб-бы прыяцельскую паездку п. Ярэміча да бальшавікоў зімою!..) і мае больш чым расплыўчатыя формы, у той час, як прысутнасьць у Радзе ідэйных антыбальшавікоў — кіраўнікоў слаўнага Слуцкага паўстаньня можа ў самым хуткім часе паставіць Раду на чале паважнай акцыі, што пры выпадках, якія ў апошні час маюць месца ў ССРР., прымае ўжо зусім рэальнае значэньне. Тое, што ані Тарашкевіч са сваей Грамадой, ані Рагуля са сваім Сял. Саюзам нічога не далі беларускаму народу яшчэ не значыць, што нічога не зробіць і Беларуская Нацыянальная Рада. А калі прыпомніць, што яшчэ Часовая Беларуская Рада ў часе ўрадаваньня Ст. Грабскага дабілася і першых курсаў і пасад для настаўнікаў і рабіла гурткі і бібліятэкі і ўратавала Клецкую Беларускую Гімназію ад закрыцьця, дык пры дэмакратычным урадзе выбраная агульна-беларускім Зьездам, Беларуская Рада безумоўна даб'ецца значных рэформаў і конкрэтных рэчаў, бо ад правядзеньня гэтых рэформаў залежыць ня толькі наш дабрабыт, але і крэпасьць усяе Дзяржавы. Беларускае-ж грамадзянства павінна дапамагчы Беларускай Нацыянальнай Радзе ў яе цяжкай працы.

Аканчальна-жа збанкрутаваўшым п. п. паслам скажам зусім шчыра і рашуча: „як паны вы не садзіцеся, а ў музыканты не гадзіцеся". Колькі-бы партыяў, „Саюзаў", „інстытутаў" і г. д. і г. д. бяз конца не закладалі, —усё тое, што ня мае цьвёрдай ідэалёгіі і рэальнай праграмы працы — нічога ня варта. А яе ў паслоў няма!

Дык скажам зусім шчыра: паны паслы! Пара ў адстаўку, у архіў! Дайце дарогу новым маладым сілам, якія хочуць творчай рэальнай працы, а не бязплоднай балтаўні, дэмагогіі лаянак і партыйніцтва.

Б. Б.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## У Польшчы.

— На падставе атрыманых ад Сойму паўнамоцтваў Урад маніцца зрабіць пэўныя зьмены ў законе аб зямельнай рэформе.

— Рада Міністраў на дамаганьне ваеннага міністра пастанавіла выплаціць афіцэрам польскай арміі дадаткі да пэнсіі пачынаючы ад 1 жніўня г.г.

— Памёр вядомы польскі паэт Ян Каспровіч.

— Рада Міністраў зацьвердзіла праэкт амністыі для тых палітычных вязьняў, якія ў дзень прысуду ня мелі 17 гадоў.

— У нядзелю 8 жніўня ў Варшаве адбыўся ўрачысты пераход у праваслаўную веру двох б. каталіцкіх ксяндзоў—Гушно і Пятрушкі. Ксяндзы гэтыя разам з паслямі Сойму Бэрэкам, Сахой і Лагомскім стварылі г. зв. „Нацыянальную польскую царкву" і пастанавілі далучыцца да праваслаўнай царквы ў Польшчы. Новая царква налічвае 1485 пасьледавальнікаў, ад імя якіх і была падана просьба аб прыняцьці іх ў праваслаўную веру. „Нацыянальная царква" прызнае ўсе догматы праваслаўнай царквы.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Францыя.** Пасьля прыняцьця ўрадовых законапраэктаў 11 жніўня закончылася звычайная сэсія парлямэнту. Курс франка ўсьцяж папраўляецца. За фунт штэрлінгаў плацяць толькі 165 франкаў.

**Англія.** Ня гледзячы на вельмі цяжкае матэрыяльнае палажэньне рабочых забастоўка вуглякопаў яшчэ не скончылася. Але ўжо нават правадыры зразумелі, што забастоўка правалілася і самі шукаюць шляхоў да паразуменьня. Есьць надзея, што ў працягу тыдня забастоўка скончыцца.

**Грэцыя.** У Афінах зроблены замах на жыцьцё прэзыдэнта Пангалоса. Спраўца быў арыштаваны раней, чым пасьпеў выстраліць.

**Румынія.** У зьвязку з апошнімі падзеямі на Украіне ўрад выслаў на савецкую граніцу вайсковыя часьці.

**Баўгарыя.** Румынія, Грэцыя і Сэрбія злажылі баўгарскаму ўраду ноту ў справе апошніх нападаў баўгарскіх камітаджэй на тэрыторыі гэтых дзяржаваў.

**Мэксіка.** У зьвязку з выданьнем дэкрэту аб канфіскацыі каталіцкіх касьцёлаў, па ўсей Мэксыцы адбыліся паважныя непарадкі. У некатарых месцох былі забітыя і раненыя.

**Кітай.** Хатняя вайна ў Кітаі не спыняецца. Каля Пэкіну ўвесь час ідуць вялікія баі паміж „народнай" арміяй Фэнга і антыбальшавіцкімі войскамі Чанг-Тсо-Ліна і Фу-Нэй-Фу. Апошняе афіцыяльнае паведамленьня з Пэкіну гаворыць аб тым, што нібыто „народная" армія аканчальна разьбіта, але пацьверджаньня гэтай весткі яшчэ няма.

# У С. С. Р. Р.

### Зямля жыдам.

Як паведамляе "Віленскае Утро" № 1746 гэтымі днямі ў Бэрліне адбылася трэцяя конфэрэнцыя жыдоўскай арганізацыі „Орта".

Дэлегаты ў сваіх прамовах падалі вельмі цікавыя данныя аб палажэньні жыдоў у Расеі і між іншым аб надзяленьні жыдоў зямлёю.

Адзін з прамоўцаў жаліцца, што ў урадавым савецкім апараце жыдоў вельмі мала. Але гэта толькі ў цэнтры. Што датычыць правінцы дык па словам прамоўцы „у жыдоўскіх(?) мястэчках і гарадох з пераважаючым працэнтам жыдоўскага насяленьня ў савецкіх установах амаль *усе сто працэнтаў* урадоўцаў—жыды. Далей прамоўца кажа аб жыдоўскім асадніцтве і зазначае, што для насяленьня ўсіх жыдоў на зямлю не хапае ні зямлі, ні сродкаў. Найлепшыя рэзультаты асадніцтва дало ў Адэскім раёне, дзе пры дапамозе „Орта" ад 1923 года паўстала 18 жыдоўскіх калёніяў, якія маюць *12 тысячаў дзесяцін* зямлі. У гэтых калёніях жыве 5.000 жыдоў. На Беларусі каля гарадоў і мястэчкаў (а значыцца найлепшая і найдаражэйшая зямля!) жыдам аддана *280.000 дзесяцін* зямлі. На гэтай зямлі пасялілася 24.000 жыдоў.

Гэта значыць, што кожны жыд-калёніста на Беларусі атрымаў у сярэднім на душу 12 дз. і гэта ў той час калі адвечны гаспадар гэтае зямлі беларускі селянін часта мае якую 1 дзесяціцу, а то і менш зямлі.

Вось як комуністы праводзяць свой лёзунг зямля сялянам. На дзеле, дык: зямля—жыдам, а беларускі селянін мусіць кідаць бацькаўшчыну і ехаць у Сыбір, бо ня можа пражыць на малым кавалку зямлі.

# „Беларускі“ мітынг.

У Вільні, ў нядзелю 8 жніўня, быў вызначаны беларускі мітынг, на якім мелі прамаўляць дзеячы пралетарска-комуністычнай „Грамады“: паслы Тарашкевіч і Рак. Першую прамову на гэтым „беларускім“ мітынгу пачаў п. Тарашкевіч *па польску*! Але ня гледзячы на гэткі лоўкі падыход да комуністычна настроеных палякоў, беспадстаўныя нападкі п. Тарашкевіча на сучасны дэмакратычны ўрад і на маршалка Пілсудскага, а таксама комуністычныя лёзунгі пралетарскага пасла, вызвалі абурэньне з боку часткі сабраўшыхся, якія пачалі крычэць і перашкаджаць прамове п. Тарашкевіча. Гэта выклікала з боку прыхільнікаў п. Тарашкевіча гэтаксама крыкі і пагрозы, што давяло нарэшце да інтэрвэнцыі паліцыі, якая разьвязала мітынг.

Але самае цікавае, што на гэтым „беларускім“ мітынгу, на якім ніхто не гаварыў па беларуску, было дзьве трэціх жыдоў і жыдовак ды мейсцовага комуністычнага элемэнту. Гэтак акружаны жыдамі і комуністамі пайшоў „беларускі“ пасол Тарашкевіч на вуліцу, дзе гэтае ж „беларускае“ акружэньне засьпевала наш нацыянальны гімн... (ганьба і прафанацыя!) Каб хто не падумаў, што мы ня зусім точны, мы ніжэй друкуем справаздачу аб гэтым мітынгу афіцыоза „Грамады“ рэптыльнай „Народнай Справы“, гдзе гаворыцца гэтак: „На вуліцы публіка затрымліваецца. Паслоў вітаюць крыкамі: „няхай жывуць!“ *Кучка жыдоўскіх работніц і работнікаў пачынаюць сьпяваць: „Ад веку мы спалі“*.

Гэткі першы „беларускі“ мітынг у былай сталіцы Беларусі—Вільні зрабіў Тарашкевіч: дзьве трэціх аўдыторыі—жыды... прамоўцы гаворыць па польску... Беларускі гімн пяюць жыдоўскія комсамольцы...

Каб гэта здарылася з якім п. Луцкевічам, дык не дзіўна-б было, бо ў таго і сымпатыі да жыдоўскага асадніцтва ў Савецкай Беларусі і крэўная залежнасьць (жанаты на жыдоўцы). А то Тарашкевіч... Да чаго толькі можа давясьці згубнае палітыканства... Што з культурнага працаўніка робіць сухога доктрынёра і шкоднага дэмагога.

*Прысутны.*

## Комсамольская школа.

Не раз ужо мы канстатавалі выпадкі калецтва беларускай вучнёўскай моладзі ў Вільні, якую ўцягвае ў сваю комуністычную працу комуністычны найміт А. Луцкевіч.

Цяперака маем выпадак новага калецтва, якое як відаць праводзіцца плянова. Усім вядома тая праца, якую энэргічна вядзе на бальшавіцкія грошы „Сел. Раб. Грамада“ Луцкевіча, Тарашкевіча, разам са сваім рэптыльным органам „Бел. Справай“. Дык вось аказваецца тых вучняў, якіх увесь час трымаў пад сваей апекай Луцкевіч і ўжываў для комуністычнай працы, ён аканчальна і ўжо адкрыта наняў на службу. Гэтак 7 недасьпелых вучняў Віленск. Бел. Гімназіі, бо скончыўшых толькі 7 клясаў, а ласьне: Марцінчык, Саковіч, Асаевіч, Сідаровіч, Грыц. Радзюк і Шустэр працуюць пад кіраўніцтвам А. Луцкевіча ў цэнтральным сэкрэтарыяце Грамады (пры рэдакцыі комуністычнай рэптыліі „Бел. Справы“, Віленская вул. N 12) на сталай пэнсіі. Гэткім чынам А. Луцкевіч з кіраўніка комун. газэтаў, старшыні Мопр'у і кіраўніка „Белкому“ заняў пасаду яшчэ старшыні бел. „Комсамолу“. З заметкі ў „Б. Справе“ дзе гаворыцца, што „Грамада“ мае на думцы наагул „заняцца арганізацыяй моладзі“, відаць, што віленскія комуністы хочуць справу „Бел. Комсамола“ яшчэ больш паглыбіць і пашырыць. Аднак жа мы праконаны, што ў зьвязку з разрухай, якая ідзе ў Расейскай комун. партыі і ў 3 інтэрнацыянале скора „захварэюць“ і ўсе іх загранічныя пляцоўкі і экспозытуры. Спыніцца высылка грошаў і Луцкевічаўскаму Белкому і Тарашкевічаўскай „Грамадзе“. Дык трэсьне ўся іх ігідная праца. якая толькі і будуецца на бальшавіцкіх чырвонцах.

Мы пэўны, што скора ўся праца нашых комуністаў лопне. Але шкада толькі нашай зялёнай моладзі. Больна і прыкра, што яна з самага пачатку сваей грамадзкай дзейнасьці, пайшла на нягодную комуністычную працу. І гэта ў той час, як на Усходзе пад гукі грознага шторму ненавісьці процiў комуністаў,—скрозь грохат выбухаў паўстаньняў у арміі і флоце, па гарадах і мястэчках, хмары павісшай над раем комуністычнай партыі, прарэзалі першыя праменьні сонейка—надзеі ўсіх народаў СССР. на скорае свае нацыянальнае вызваленьня з рук інтэрнацыянальных гадаў. Дык шкада можа шчырых, але заблудзіўшых беларускіх хлапцоў.

*Н. Б.*

## Што будзе з Луцкевічам?

Комуністычная партыя СССР. гіне. Усюды ў Расеі, на Украіне і Беларусі ідуць баі. Відавочны ўжо блізкі канец усей бальшавіцкай улады. Разам з ёю, а то яшчэ хутчэй за яе замруць і згінуць усе бальшавіцкія заграничныя экспозытуры і арганізацыі, якія і жылі і працавалі за грошы чырвонай Масквы.

Што тады будзе з беларускім найmітам бальшавікоў Антонам Луцкевічам і ўсімі яго прыхвасьнямі. Бо за тысячы расстрэлаў лепшых сыноў Беларусі; за мукі барацьбітоў за беларускую незалежнасьць Лістападаў, Гаўрыловічаў і іншых; за мора сьлёз і гора, якія перанясьлі нашыя Бацькі і Маткі, дорага заплацяць ня толькі фактычныя забойцы і мучыцелі беларускага народу, але і яго маральныя забойцы і мучыцелі. А тутка на Заходняй Беларусі першым будзе адказваць за гэтае Антон Луцкевіч. Бо не ўратуюць яго тагды нават дэмакратычныя законы Польскай Рэспублікі, якую ён сёньня гэтак лае і ганьбіць. І адказнасьць будзе вялікая, а суд грозны.

Адно, што можа магло бы ўратаваць Луцкевіча—гэта загадзя пасьледаваць прыкладу сваіх калегаў, розных полпрэдаў і савецкіх дыплёматаў, якія ўжо пачынаюць уцякаць ад бальшавікоў, як мышы з карабля, які гіне. Але хіба толькі Луцкевіч уцячэ у глухое і надта далёкае ад Беларусі мейсца: бо караючая рука беларускага народу, які ён прадаў службаю яго ворагам, знойдзе яго і там.

*Гук.*

## З Беларускага жыцьця у Латвіі.

Беларускі аддзел пры міністэрстве асьветы ўзнавіў сваю чыннасьць. 8 і 9 жніўня адбылася паседжаньне рады гэтага аддзелу, якая прыняла наступную рэзалюцыю:

„З задаваленьнем і падзякаю прыняць да ведама, справядлівы крок латвійскага ўраду на шляху аднаўленьня нармальнай чыннасьці беларускага аддзелу. Выказаць пэўнасьць, што латвійскі ўрад задаволіць і далейшыя справядлівыя дамаганьні беларускае меншасьці“. Па пытаньню аб беларускіх настаўніцкіх курсах у Рызе, Рада прыняла гэткае пажаданьне: „Беларускія настаўніцкія курсы, якія знаходзяцца цяпер у Рызе, пажадана перавясьці ў Дзьвінск, дзе яны могуць быць зьмешчаны пры Дзьвінскай беларускай урадовай гімназіі.“ Трэба зазначыць, што заняткі на гэтых курсах маюць распачацца 1 верасьня г.г. На паседжаньні Рады абгаварывалася таксама і справа друкаваньня ў Латвіі беларускіх падручнікаў.“

Як бачым з гэтай карэспандэнцыі культурна-прасьветнае жыцьцё нашых братоў у Латвіі палепшаецца. Відаць, што ўрад лічыцца з дамаганьнямі беларускай меншасьці і ідзе на сустрэчу пажаданьням беларускіх арганізацыяў.

Час ужо, каб і польскі ўрад пайшоў гэткім-жа шляхам і задаволіў справядлівыя дамаганьні беларускай меншасьці ў галіне культурна-прасьветнага жыцьця.

# Жыцьце правінцыі.

### Водгукі Зьезду Заходняй Беларусі.

Орган „Грамады“ „Белар. і Народная Справа“, а гэтаксама і „Сялян. Ніва“ надрукавалі рэзалюцыі паданыя Зьезду апазыцыяй ды не прынятыя Зьездам, а таксама пратэст, нейкіх 9—1о апазыцыйных асобаў.

Гэтымі рэзалюцыямі і пратэстам, невядомых асобаў, палітычныя праціўнікі Бел. Нац. Рады хочуць скампрамітаваць Зьезд, але магу запэўніць, што гэта ім не удасца. Праўда, рэзалюцыі гэткія былі паданы, але апрача гэтых рэзалюцыяў былі й іншыя, якія й былі прыняты пераважнай большасьцю галасоў. Дык што-ж тут дзіўнага, калі большасьць Зьезду прыняла тую рэзалюцыю, якую прызнала слушнаю?

Карэспандэнт „Справаў“ падлічыў, што ўсяго на Зьездзе было 120 асобаў; дык на'т згаджаючыся з ім у колькасьці сябраў Зьезду, хочацца спытацца: хто каму павінен падпарадкавацца, ці 11о асобаў 1о, ці наадварот? І ці не дэмагогія гэта, калі 1о чалавек імкнецца апанаваць і навязаць свае думкі 11о чалавекам.?

Іменна, у той час, калі праціўнікі трубяць аб аднабокасьці Зьезду—гэтакі факт, як прысутнасьць апазыцыі, выбівае козыр з іх рук; бо гэта апазыцыя наказвае аб вельмі шырокім і справядлівым прадстаўніцтве, а лічба дэлегатаў на'т 120 чалавек для 3 мільённага беларускага насяленьня — будзе адпаведнаю. Зазначаю, што апазыцыю гэтую падаслала сама „Грамада“, якая перад Зьездам раз аслала паведамленьні і запросіны сваім прыхільнікам, дык зразумела, людзі падасланыя „Грамадою“ слухалі загаду „начальства“ і не маглі вольна і разумна разважаць над справамі, а праіграўшы адбіваюцца крыкам.

Дзеля гэтага адпадаюць закіды ў тым, што дэлегаты былі запрошаны Радай, бо нават афіцыяльныя прадстаўнікі „Грамады“ былі на Зьездзе не як госьці, але як сябры Зьезду. Апрача гэтага, блізкія людзі да Сял. Саюзу і Хадэкаў, паказвалі мне асабіста некалькі сваіх прадстаўнікоў, так што аб аднабокасьці Зьезду ня можа быць мовы.

Не абыйшлося тут і бяз „чыстай“ іляжы і брахлівасьці, але цяпер—12о асобаў ведаюць аб „чыстаце“ Грамады. Ведаюць што на сцэне каля прэзыдыума Зьезду не стаяла 4 аружных паліцыянтаў, як піша рэптылія, што гарэлкі за ўвесь час Зьезду ніхто на'т і не бачыў і што на грунце гэтага ніякага скандальнага інцыдэнта не было. Цяпер 12о асобаў праканаліся, што органы „Грамады“ займаюцца брахнёю і ведаюць, што „Грамада“ не цураецца „чыстых бадзякаў“ без ніякага палітычнага аблічча, як нейкі Шышкоў, які пакінуў Зьезд на знак пратэсту, што не перашкодзіла яму зьесьці разам з дэлегатамі дэлегацкі абед.

12о асобаў цяпер ведаюць, што усякім „чыстым бадзякам“ як Міткевічу і Шышкову мейсца ў „Грамадзе“.

І вось гэтая „чыстаплотная“ Грамада на чале з „вельмі паважным“ п. Луцкевічам, аб „заслугах“ якога ня трэба напамінаць — робіць з белага чорнае—даказваючы, ня гледзячы на прысутнасьць яе ж апазыцыі, што Зьезд быў аднабокі і скліка/ны выключна Радай, тагды калі прысылала і яна сваіх „малайцоў“.

*Разумнік.*

## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны пане Рэдактар!*

У Вашай газэце ад 19 красавіка г. г. № 10 была надрукована карэспандэнцыя пад загалоўкам „Вуніяты працуюць“.

Карэспандэнцыя гэтая не адпаведае праўдзе і я лічу, што напісана яна асобай, якой мая служба ў Дэрэчынскай парахвіі не падабаецца. Чыну, у якім зроблены мне закід у гэтай карэспандэнцыі ані я, ані няведамы мне вучыцель — не рабілі і я, як сьвяшчэньнік праваслаўнай царквы заўсёды стаю на сваім пасту. Прымаючы пад увагу, што гэтая карэспандэнцыя зьяўляецца для мяне абразай і крыўдай шчыра прашу пана Рэдактара надрукаваць гэтае мае спраставаньне ў паважанай газэце і выдаць мне імя і прозьвішча аўтара карэспандэнцыі з мэтай пацягненьня яго да судовай адказнасьці.

Сьвяшчэньнік Дэрэчынскай царквы
**Іоан Місюк.**

Ад Рэдакцыі: Прозьвішча аўтара зьяўляецца сэкрэтам рэдакцыі поводле этыкі журналістаў.

# Тутэйшая хроніка.

**Новы пачтовы тарыф.** Ад 1 верасьня будзе падвышана пачтовая аплата за перасылку пісьмаў! Перасылка звычайнага краёвага пісьма будзе каштаваць замест 16 гр.—2о гр. За адкрытыя пісьмы аплата будзе паменшана з 11 да 1о гр.

**Распараджэньне ў справе выдачы паспартоў сялянам.** Міністэрства Унутраных Справаў разглядае і хутка маніцца выдаць новае распараджэньне аб палёгках пры выдачы пашпартоў вясковаму насяленьню. Згодна з гэтым распараджэньнем сяляне будуць атрымоўваць пашпарты ў сваіх гмінных урадах.

**Сьвяшчэньнікаў звальняць ня будуць.** Як ведама ў 1925 г. міністэрства рэлігійных справаў дабівалася звальненьня і пераводу ў іншыя прыходы цэлага раду сьвяшчэньнікаў віленскай эпархіі. Цяпер атрымана афіцыяльнае паведамленьне, што ўсе гэтыя сьвяшчэньнікі застануцца на сваіх месцох і ніхто з іх звольнены не будзе.

**Сэквэстратары крадуць.** Апошні час растраты сэквэстратарамі віленскага Магістрату сабраных імі падаткаў прынялі эпідэмічны характар. Толькі за апошнія два тыдні было два гэткіх выпадка. 29 ліпня была выкрыта растрата сэквэстратарам Набароўскім 3.818 злотых, а 12 жніўня стала вядомым аб новым зладзействе. Гэтым разам была зроблена растрата сэквэстратарам Шмігэльскім, які забраў 1.3оо злотых. У зьвязку з гэтым Магістрат маніцца вызначыць асобных кантралёраў дзеля нагляду за сэквэстратарамі. Да гэткага спосабу барацьбы з растратамі мог дадумацца толькі наш слаўны магістрат!

**Курс на грошы.** Курс злотага сыстэматычна павышаецца. Афіцыяльны курс даляра—8 зл. 98 гр.; чорная біржа плаціць нават яшчэ менш—8 зл. 90 гр. За 1о рублёў золатам даюць 46 злотых.



Адказны Рэдактар Т. Вернікоўскі. Друк А. Дворжэца Завальная 32. Выдав Бел. Нацыянальная Рада